*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
Якуб Колас

**№ 44 (1109)**
Аўторак, 6 сакавіка 2001 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень

Кошт: у кіёсках і крамах — 80 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

# Народная Воля

**Неспрыяльныя дні ў сакавіку**
8-га — з 5.00 да 7.00;
11-га — з 6.00 да 8.00;
13-га — з 13.00 да 15.00;
20-га — з 20.00 да 22.00;
24-га — з 16.00 да 18.00.





**Навіны**

## Замест кандыдата ў эфіры сімфонія

**Беларускае тэлебачанне не выпусціла ў эфір 5-хвілiннае выступленне кандыдата ў дэпутаты Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу па Коласаўскай выбарчай акрузе № 105 Мінска Юрыя Васкрасенскага.**

Зварот да выбаршчыкаў Юрыя Васкрасенскага — старшыні савета Маладзёжнай дэмакратычнай ініцыятывы і віцэ-прэзідэнта грамадскага аб'яднання "Сацыяльныя тэхналогіі" — павінен быў выйсці ў эфір 2 сакавіка, аднак замест гэтага па тэлебачанні на працягу пяці хвілін гучала сімфанічная музыка.

Юрый Васкрасенскі зрабіў заяву для прэсы. Ён не выключае, што яго выступленне "не прапусцілі па ўказанні намесніка старшыні Нацыянальнай дзяржтэлерадыёкампаніі А.Зімоўскага", паколькі адзін з фрагментаў выступлення гучаў наступным чынам: "Сёння ў краіне накапіліся праблемы і ў палітычнай сферы грамадства. Усе мы, грамадзяне Беларусі, пакутуем ад гэтага. Няўжо камусьці незразумела, што сябраваць трэба з усім светам? Навошта ператвараць Беларусь у дзяржаву-ізгоя? Навошта пры дапамозе дзяржаўных СМІ вуснамі нядзельных аналітыкаў — я маю на ўвазе А.Зімоўскага і кампанію — дзяліць наш народ на чужых і сваіх, сяброў і непрыяцеляў? Ці ж у Беларусі няма іншых, больш важных праблем, чымсьці шукаць ворагаў у асобе грамадскіх арганізацый, палітычных партый, прафесійных саюзаў, студэнцкага руху, прэсы, расійскага тэлебачання і іншых".

**Наталля КУЛАГІНА.**

## "Маладому фронту" зноў адмовілі

**3 сакавіка ў Вярхоўным судзе Рэспублікі Беларусь адбылося слуханне грамадзянскай справы па іску незарэгістраванай арганізацыі "Малады фронт" да Міністэрства юстыцыі. Сутнасць іску заключалася ў тым, што "Малады фронт" дамагаўся адмены рашэння Мінюста ад 3 студзеня 2001 года, які адмовіўся зарэгістраваць гэтую апазіцыйную маладзёжную арганізацыю.**

Вярхоўны суд у задавальненні іску адмовіў. Такое рашэнне суддзя Ганна Сакалоўская матывавала тым, што для рэгістрацыі ў Міністэрстве юстыцыі арганізацыя не прадставіла своечасова ўсіх неабходных дакументаў і пры правядзенні арганізацыйных мерапрыемстваў пры заснаванні "Маладога фронту" былі дапушчаны пэўныя парушэнні. Пасля абвяшчэння судовага рашэння суддзя адзначыла, што палітычнай падаплёкі ў гэтай справе няма.

Аднак, на думку лідэра незарэгістраванай арганізацыі Паўла Севярынца, выказаную ў інтэрв'ю карэспандэнту БелаПАН, адмова ў рэгістрацыі — гэта не судовае, не юрыдычнае, а "палітычнае рашэнне, прынятае на ўзроўні Адміністрацыі прэзідэнта і Савета бяспекі, паколькі найбуйнейшая маладзёжная арганізацыя перашкаджае ўладам, і асабліва перад прэзідэнцкімі выбарамі". Ён запэўніў, што прыкладзе максімум намаганняў для таго, каб яе "легалізаваць" да галоўнай палітычнай падзеі года ў Беларусі.

**Генадзь БАРБАРЫЧ.**



*Март. Последний снег, но хороший.*

Фото IREX/ProMedia.

**Факт і каментарый**

## Не трэба нам рубель расійскі?

"Калі па пытанні адзінага эмісійнага цэнтра не будзе дасягнуты кансенсус, Рэспубліка Беларусь мае ўсе падставы для адмовы ад выкарыстання расійскага рубля на працягу трохгадовага пераходнага перыяду і ўвядзення ў абарот адзінай грашовай адзінкі не раней за 1 студзеня 2008 года, гэта значыць толькі пасля стварэння паўнацэннага адзінага наднацыянальнага эмісійнага цэнтра Саюзнай дзяржавы".

Пра гэта заявіў першы намеснік старшыні праўлення Нацыянальнага банка Беларусі Павел Калаур.

Ён нагадаў, што пакуль пытанне аб статусе, задачах і функцыях адзінага эмісійнага цэнтра беларуска-расійскай Саюзнай дзяржавы не вызначана "ў сувязі з рознымі пазіцыямі бакоў". Беларусь прапаноўвае стварыць адзіны эмісійны цэнтр Саюзнай дзяржавы як сістэму нацыянальных банкаў дзвюх краін. Вышэйшым органам гэтай сістэмы павінен стаць Міжбанкаўскі валютны савет, якому бакі дэлегуюць важнейшыя паўнамоцтвы ў галіне грашова-крэдытнай палітыкі.

У Беларусі пакуль не вядзецца работа па стварэнні Канстытуцыйнага акта Саюзнай дзяржавы. Пра гэта заявіла намеснік міністра юстыцыі Вольга Сяргеева на пасяджэнні пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі па міжнародных справах і сувязях з СНД.

Трэба адзначыць, што прыняцце Канстытуцыйнага акта прадугледжана дагаворам аб стварэнні беларуска-расійскай Саюзнай дзяржавы. Акт павінен вызначыць дзяржаўны лад Саюзнай дзяржавы, яе прававую сістэму.

Нічога аб распрацоўцы гэтага дакумента не вядома і старшыні парламенцкай камісіі па міжнародных справах і сувязях з СНД Анатолю Малафееву. Паводле яго слоў, гэтае пытанне яшчэ ні разу не абмяркоўвалася на Вышэйшым дзяржаўным савеце Саюзнай дзяржавы і пакуль ніводзін з бакоў яго разгляд не ініцыіраваў. Наогул, як заявіў Анатоль Малафееў, у гэтым пытанні "яшчэ конь не качаўся".

**Юрый ПАЦЁМКІН, БелаПАН.**

* * *

Ну, нарэшце! А то ўжо кепскія думкі лезлі ў галаву: штосьці даўненька не было скандальчыка аб грашовай інтэграцыі. Няўжо справы пайшлі на лад? Але, дзякуй Богу, пакуль не.

Грашовая інтэграцыя з Расіяй — адна з самых "барадатых" тэм. Яшчэ Кебіч выхваляўся, што хутка да нас прыйдзе расійскі рубель. Па тэлебачанні нават паказвалі вагоны з грашыма, якія нібыта адпраўлялі ў Мінск. Было гэта гадоў сем таму. Ідуць яны да сённяшняга дня...

Пуцін са сваёй рашучасцю "мачыць усіх у туалетах" ударыў з Лукашэнкам па руках і ўсяму свету аб'явіў: з першага студзеня 2005 года ў Беларусі будзе расійскі рубель, а з 2008 года — новая грашовая адзінка Саюза. Не паспелі прасохнуць чарнілы на той дамове, як пачалася яе рэвізія. Першым рэвізорам выступіў сумнавядомы Барадзін. Перад ад'ездам у нью-йоркскую турму ён заявіў: навошта так доўга чакаць? Агульную валюту можна ўвесці ўжо ў 2001—2002 гадах. На што з Нацыянальнага банка Беларусі пачулася рэпліка: а хто такі Барадзін? Ён можа гаварыць усё, што яму ўздумаецца. Але ж ужо вызначаныя тэрміны грашовай інтэграцыі.

Вядома, дзе кулакамі махаюць, там і Лукашэнка. Ён тут жа ўвязаўся ў палеміку і "даў пад самы дых" свайму Нацыянальнаму банку, заявіўшы, што не выключае ўвядзення адзінай з Расіяй грашовай адзінкі раней тэрміну. Праўда, крыху пазней у інтэрв'ю інфармацыйнай кампаніі "Інтэрфакс" ён ужо заявіў іншае. Паводле яго слоў, пытанне фарміравання адзінага эмісійнага цэнтра будзе дадаткова прапрацоўвацца ўрадамі і нацыянальнымі банкамі абедзвюх краін.

І вось новыя паведамленні. Са слоў першага намесніка старшыні Праўлення Нацыянальнага банка Беларусі Паўла Калаура відаць, што асноўнае пытанне так і не вырашана. Больш таго, у бакоў розныя падыходы да яго. Беларусь хоча на роўных з расіянамі распараджацца іхнімі грашыма. Нічога сабе апетыт! Праўда, маглі б замахнуцца і на долары. Калі ўжо замахвацца, дык на самае лепшае.

Але і гэта яшчэ не ўсё. Пакуль нават не вядзецца работа па стварэнні Канстытуцыйнага акта саюзнай дзяржавы. Старшыня парламенцкай камісіі так званай Палаты прадстаўнікоў Анатоль Малафееў, які не вызначаецца асаблівай лірыкай, і то заўважыў, што тут "яшчэ конь не качаўся".

А той жа акт — прававая аснова для ўсіх астатніх пагадненняў. Якая без яго можа быць грашовая інтэграцыя?

Ну то і дзякуй Богу. Значыць, яшчэ застаецца ў нас важнейшы атрыбут незалежнасці.

**Алесь ДРАБЧУК.**



**Цитатник**

## Шесть лет "верной дороги"

### *Читая высказывания высоких чиновников*

Анализируя материалы расширенного заседания Совета министров 15.02.2001 г. и Проект программы реформирования агропромышленного комплекса Беларуси, подготовленный правительством, а также материалы самой понятной и ясной газеты в государстве, никак не могу взять в толк, что же происходит в нашей экономике. Судите сами. Приведу некоторые выдержки из официальных комментариев и высказываний.

"Шесть лет назад белорусский народ осознанно и верно избрал долгосрочную стратегию развития страны, многое сделал для ее реализации". Что же делал белорусский народ 7 или 8 лет назад? Наверное, блуждал в потемках. И наконец...

"Однако успокаиваться рано. Чтобы войти в число передовых стран мира, предстоит большая работа". Внимание! Оказывается, мы уже на пороге вступления в семерку наиболее развитых стран мира! Осталось совсем чуть-чуть, главное — не расслабляться и "дико" поработать.

"По его (главы государства) мнению, оно (правительство) знает, куда идти и что делать. Но того, что сделано, недостаточно. Нет динамики, уверенности...". Так есть динамика у нашей экономики или нет? А если нет уверенности, то куда идет правительство?

"Чтобы... приоритеты заработали, уже в нынешнем году надо создать благоприятные стартовые условия". Так мы все еще стартуем? Это после шести лет верной дороги?

А теперь попытаемся понять, на каком же свете находится наше сельское хозяйство.

"Четверть белорусских колхозов и совхозов нуждается в коренной перестройке производственных отношений, т.к. не могут дальше развиваться в прежнем виде. Около 15% хозяйств являются хроническими банкротами... Последние 10 лет стали серьезным испытанием на прочность для колхозно-совхозного строя... Инвестиции в отрасль сократились в 10 раз... Хроническая нехватка средств, которой в немалой степени поспособствовал пресловутый диспаритет цен, "вымывший оборотку" хозяйств, привела к тому, что производство сельхозпродукции сократилось наполовину"... И это после 6 лет верного пути!

"Половина колхозов и совхозов традиционно убыточны, долги их перешагнули рубеж в полтриллиона рублей. Эффективность производства настолько низка, что государственная поддержка АПК на 10—15% превышает стоимость валовой продукции". Иначе говоря, 10 рублей вложил, на 9 получил. Как говорится, комментарии излишни.

"Теперь правительство предлагает новый проект развития белорусского АПК. Избран не революционный, а эволюционный путь преобразований...". "...Как заявил на совещании по проблемам АПК президент Беларуси, уже осенью наблюдатели могут не узнать сельское хозяйство страны". Значит, не революционным путем, надо понимать, вырвется в разряд самых передовых за оставшиеся до осени 6 месяцев наше сельское хозяйство. Сотворится чудо, и мы накормим всю Европу.

"Коренные преобразования необходимо провести и прежде всего в тех хозяйствах, где живется в настоящее время нелегко...". "Вернуть их к жизни, оздоровить экономику, дать возможность почувствовать себя хозяевами"... Значит, одни хозяйства реформа вернет к жизни, а другие — не узнаете.

"Теперь аграрии ожидают начала марта. Именно к этому времени предложенная правительством программа реформирования АПК должна быть доработана...". Таким образом, 1 марта — время "Ч". А дальше — эволюционно стартуем.

Вот, скажут, надергал куски текста. Может, и надергал. Однако дергай, не дергай, а уж чем преуспела наша власть накормить народ, так это "идеологической колбасой". С тухлятиной. Нас ею 70 лет кормили. Кому не надоело, пусть эту жвачку еще пожуют.

**Сергей КРАВЦОВ.**

**Надвор'е**

Сёння ўдзень па краіне захаваецца пераменная воблачнасць, пераважна без ападкаў. Месцамі на дарогах галалёдзіца. Вецер паўночна-заходні, 4—9 м/с. Тэмпература паветра ў Віцебску — 0...-2, Магілёве, Мінску, Гомелі — 0...+2, Гродне — +1...+3, Брэсце — +2...+4.

У наступныя двое сутак пераважна без ападкаў, толькі 7-га па поўначы невялікі снег, мокры снег. Уначы і раніцай месцамі туман. Вецер заходні і паўднёва-заходні, 3—8 м/с. Тэмпература ўначы — -2...-7, удзень 7-га — +2...+7, 8-га — +4...+9.

## Сініцын б'е трывогу: спыніць рабаўніцтва краіны!

### *"Палатнікі" — у спакоі*

Шырокі рэзананс у грамадстве выклікала пісьмо былога кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Леаніда Сініцына дэпутатам так званай Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу. У ім ён паведамляе аб тым, што наша краіна на мяжы рабаўніцкай прыватызацыі, на продаж з малатка выстаўлены лепшыя беларускія прадпрыемствы. Спадар Сініцын заклікае палатнікаў спыніць гэты разбуральны працэс.

Як жа яны ўспрынялі яго заклік? Мы патэлефанавалі кіраўнікам шэрагу камісій парламента і папрасілі выказаць свае адносіны да згаданага пісьма, а таксама аб мерах, якія яны мяркуюць прыняць. Старшыня Камісіі па заканадаўстве і судова-прававых пытаннях Аляксандр Архіпаў сказаў, што ён не бачыць патрэбы ў праверцы таго, аб чым напісаў Сініцын. Бо такія буйныя прадпрыемствы, як тыя ж "Белшына" і магілёўскае "Хімвалакно", ніхто не прыватызуе. Відаць, Сініцын вырашыў зрабіць сабе перадвыбарную рэкламу.

Старшыня камісіі па праблемах чарнобыльскай катастрофы, экалогіі і прыродакарыстанні Валянцін Кручкоў паведаміў, што ёсць меркаванне вывучыць пісьмо. Наконт яго ўжо звярталіся некаторыя дэпутаты. Член Камісіі па прамысловасці, паліўна-энергетычным комплексе, транспарце, сувязі і прадпрымальніцтве Уладзімір Жвікаў адзначыў, што ён толькі што атрымаў пісьмо Сініцына, таму трэба будзе перагаварыць з калегамі і вызначыцца. Што датычыць узнятай у тым пісьме праблемы, дык пра падобныя звесткі ён не чуў. Намеснік старшыні камісіі па грашова-крэдытнай палітыцы і банкаўскай дзейнасці Мікалай Бародка паведаміў, што пісьмо Сініцына мяркуецца разгледзець на пашыраным пасяджэнні Камісіі.

Як бачым, рэакцыя дэпутатаў так званай Палаты прадстаўнікоў даволі стрыманая, асабліва рашучасці ў расследаванні важнейшай праблемы пакуль не назіраецца.

**Іван СЯРГЕЕЎ.**

**Інцыдэнт**

## Схватка Сцяпана Кузьміча з Алесем Чэхольскім

Раніцай 2 сакавіка, вяртаючыся на цягніку з Варшавы, сакратар управы Кансерватыўна-Хрысціянскай партыі — БНФ Алесь Чэхольскі быў затрыманы супрацоўнікамі мытні ў Брэсце. Мытнікі пратрымалі сп.Чэхольскага тры гадзіны ў мытнай зале, дзе зрабілі агляд ягоных рэчаў і канфіскавалі 745 асобнікаў часопіса "Беларускія ведамасці". Быў складзены пратакол, справа будзе перададзена ў суд. Часопіс кваліфікаваны як "матэрыялы, якія пагражаюць палітычнаму ладу Рэспублікі Беларусь".

У сп.Чэхольскага склалася ўражанне, што ён знаходзіцца не на беларускай мяжы, сустракаецца не з беларускімі мытнікамі, а натрапіў на мытную службу Расійскай імперыі. На ягоныя патрабаванні звяртацца да яго на дзяржаўнай беларускай мове службовыя асобы рэагавалі адмовай у здзеклівай форме. Не было прадстаўлена аніводнага афіцыйнага дакумента, аніводнага бланку на беларускай мове. Калі мытнікі прапанавалі яму падпісаць дакументы, сп.Чэхольскі адмовіўся зрабіць гэта, матывуючы тым, што паперы запоўнены не па-беларуску.

Дарэчы, службовыя асобы ўпарта не называлі свае прозвішчы і толькі з пратаколу стала вядома, што рабіў затрыманне старшы інспектар Сцяпан Васільевіч Кузьміч. Сп.Чэхольскі мае намер падаваць сустрэчны іск у суд, каб дамагчыся вяртання канфіскаваных часопісаў.

Трэба адзначыць, што пасля звароту да сп.Зянона Пазьняка з заклікам вылучыць сваю кандыдатуру на прэзідэнцкіх выбарах з боку сяброў Кансерватыўна-Хрысціянскай партыі — БНФ увага да дзеячаў руху і партыі з боку рэжыму значна абвастрылася.

**Прэс-служба Кансерватыўна-Хрысціянскай партыі — БНФ.**



*Пр. Астапа, Георгія, Цімафея.*
*К. Ружы, Віктара.*

САКАВІК
# 6
АЎТОРАК

| ☉ | ○ |
|---|---|
| Усход 6.46 | Поўня |
| Захад 17.56 | 9 сакавіка |
| Даўж. дня 11.10 | Захад 5.58 |
| | Усход 13.33 |

## Трудная победа депутата Терени

**В Ошмянах прошел повторный суд по "таможенному делу" депутата Верховного Совета 13-го созыва Геннадия Терени. Напомним, что 29 января Тереня возвращался на поезде из Вильнюса, где он принял участие в семинаре по ненасильственным методам борьбы. К обыкновенному семинару, которых в мире ежедневно проводятся сотни, было приковано внимание белорусских спецслужб. Видимо, по этой причине, обнаружив в багаже Терени учебные материалы вильнюсского семинара, таможенники посреди ночи сняли депутата с поезда на приграничной станции Гудогай, продержали 3 часа в "кутузке", а потом, не составив никакого протокола, ранним утром отпустили. При этом таможенники не поинтересовались, есть ли у "нелюбимого пассажира" деньги на билет до Минска или нет.**

Далее началась судебная канитель. Выяснилось, что Тереню судят уже не за провоз неких "опасных для государства" материалов, а за "невыполнение законных требований работников таможни". Что подразумевалось под этим "невыполнением"? Геннадий Тереня, как утверждают свидетели, подчинялся абсолютно всем требованиям работников таможни. Преодолев 14 февраля около 300 километров и приехав в Ошмяны на первый суд, обвиняемый увидел, что ни один из таможенников, которые, к слову, живут в Ошмянах, не явился. Поэтому депутату и его общественному представителю пришлось возвращаться в Минск и ждать второго суда, назначенного на конец февраля.

На второе заседание таможенники все же соизволили явиться, однако не принесли ни одного конфискованного у Терени материала (за которые, собственно, депутат и был снят с поезда). Сослались на то, что материалы находятся "на изучении в Совете безопасности".

По мнению представителя Геннадия Терени в суде Бориса Звозскова, "материалы в суд не были представлены таможенниками осознанно по причине того, что никакого криминала в этих материалах нет и быть не может, — это обыкновенные учебные пособия, включая перепечатки из совершенно легально изданных книг". Далее Борис Звозсков рассказывает: "Таможенники часто путались в своих показаниях на суде, не могли ответить на ряд вопросов и, в конце концов, договорились до того, что Тереня якобы нецензурно выражался и вел себя вызывающе. Я знаю полковника Тереню очень хорошо и уверен в том, что он не мог себе этого позволить, тем более в присутствии представителей власти".

При задержании Геннадия Терени не были составлены ни протокол об изъятии, ни протокол досмотра вещей, ни протокол о личном осмотре и так далее. "Процедура, предусмотренная законом в этом случае, соблюдена не была. При этом изначально закладывается потенциальная опасность для других граждан в будущем, — считает Звозсков. — Судья из Ошмян заявила, что протоколы при отсутствии административного правонарушения составлять не обязательно, а значит, получается, что правоохранительным органам дается право задерживать любого человека без составления протокола и исполнения строгой, предусмотренной законом процедуры".

Следует отметить одну немаловажную деталь: все расходы на неоднократные путешествия депутата и его общественного представителя к месту суда, а также на билет на поезд "Гудогай—Минск" государство не оплатило. А это не менее 30 тысяч рублей. Для пенсионера Терени — сумма не маленькая.

Любит наше государство унижать своих граждан. Особенно, если эти граждане периодически и не без оснований возмущаются порядками в этом государстве.

Геннадия Тереню в ошмянском суде оправдали. Только вот, как говаривал небезызвестный таможенник Верещагин из фильма "Белое солнце пустыни", — за державу все равно обидно! А таможня, как известно, этой державы неотъемлемая составляющая.

**Александр СИЛИЧ.**

## Права "вшивой блохи"

### *Права человека белорусское государство понимает в прямом смысле этого слова — как права лишь одного человека. Знаете, кого...*

За нарушение прав этого одного человека и предусматривается уголовное преследование в новом Уголовном кодексе. В нем нет даже упоминания о привлечении к ответственности должностных лиц государства за нарушение общечеловеческих прав граждан. Потому как людей в нашем государстве как бы нет. И в самом деле, какие права человека могут быть у "вшивой блохи"?

А вот в государстве США считают иначе. И не только считают, но и ведут учет. Перечень совершенных белорусским государством нарушений прав конкретных людей в 2000 году в очередной раз увеличился и занял 43 страницы.

К слову, это 25-й (можно сказать, юбилейный) ежегодный доклад, который Государственный департамент США предоставляет своему законодательному органу. И то не просто формальность. Конгресс США, в отличие от белорусского парламента, может жестко поставить вопрос перед президентом Соединенных Штатов за непринятие мер по защите прав человека. А потому исполнительная власть США на нарушения прав человека реагирует: к докладу приложены 37 (!) заявлений, сделанных в 2000 году должностными лицами и государственными органами по вопросу соблюдения прав человека в Беларуси.

Последним в 2000 году (12 декабря) было заявление американского посольства по вопросу злобных трехдневных инсинуаций государственного телевидения Беларуси о "призыве" посла США Дэниела Спекхарда "ввести торговые санкции против Беларуси". Посольство США обращалось к Белорусскому телевидению с требованием признать лживый характер данного репортажа и обнародовать опровержение.

Увы, увы... Опровержений не последовало. Не знаю, как остальные граждане Беларуси, но лично я за два срока нахождения у власти А.Лукашенко не слышал слов извинений ни от главы нашего государства, ни от его телевидения.

Особо хочу отметить, что в докладе Госдепартамента США по вопросу нарушения прав человека нет выводов. Это — информация к размышлению.

Правдивая, между прочим!

**Валерий ЩУКИН,**
**правозащитник, БХК.**

Народная Воля 6 САКАВІКА 2001 г.

Навіны

## Прафсаюзы збіраюць подпісы

**Федэрацыя прафсаюзаў Беларускай (ФПБ) прыступіла да збору подпісаў пад патрабаваннямі, якія былі выпучаны 14 лютага ў Мінску на мітынгу пратэсту "Заработную плату — на ўзровень цэн".**

Нагадаем, што сярод галоўных патрабаванняў удзельнікаў мітынгу былі наступныя: давесці тарыфную стаўку 1 разрада да ўзроўню не ніжэйшага за пражытачны мінімум, а зарплату бюджэтнікаў — да ўзроўню сярэдняга заробку ў прамысловасці, спыніць умяшальніцтва дзяржаўных органаў у дзейнасць прафсаюзаў, спыніць "патокі хлусні і паклёпу на прафсаюзы ў дзяржаўных СМІ", а таксама падпісаць трохбаковае Генеральнае пагадненне на 2001—2003 гады з улікам прапаноў Федэрацыі прафсаюзаў.

Збор подпісаў з'яўляецца працягам мітынгу і адной з форм удзелу ў акцыі пратэсту, зазначаюць у Федэрацыі прафсаюзаў. Апрача таго, гэта яшчэ і магчымасць заявіць кожнаму аб сваёй грамадзянскай пазіцыі. Форма падпіснога ліста, зацверджаная прэзідыумам ФПБ, разаслана ва ўсе прафсаюзныя арганізацыі краіны.

**Наталля КУЛАГІНА.**

## У Мінску – Тыдзень літоўскіх фільмаў

**5 сакавіка ў мінскім кінатэатры "Перамога" адкрыўся Тыдзень літоўскіх фільмаў, арганізаваны пасольствам Літвы ў Беларусі. У яго ўключаны сем стужак розных жанраў, знятых вядомымі літоўскімі кінарэжысёрамі ў перыяд з 1965 па 1999 год.**

Паказ пачаўся з псіхалагічнай драмы "Звер, які выходзіць з мора" (1991) рэжысёра Вітаўтаса Жалакявічуса — аўтара вядомага вострасюжэтнага фільма "Ніхто не хацеў паміраць" (1965), які таксама будзе паказаны ў рамках Тыдня. У праграму таксама ўключаны карціны "Сляды пярэваратня" (1987), "Млечны шлях" (1990), "Час поўні" (1989), "Пачуцці" (1968) і "Эльза з Гіліі" (1999), якая завершыць кінапаказ 11 сакавіка. Дарэчы, апошні фільм удастоены двух спецыяльных прызоў — за музыку, а таксама за нацыянальны характар і традыцыі — на мінскім міжнародным кінафестывалі "Лістапад-2000".

**Ірына САЗАНОВІЧ.**

## Небяспечныя ліфты

**У шматпавярховых жылых дамах Бабруйска спынена праца 21 ліфта. Такое рашэнне прыняла камісія Праматамнагляду, якая прызнала далейшую эксплуатацыю ліфтаў небяспечнай.**

Запасныя часткі і дэталі да спыненых ліфтаў будуць закуплены на заводзе "Магілёўліфтмаш". Усяго ж у Магілёўскай вобласці свой тэрмін эксплуатацыі выпрацавалі каля 230 ліфтоў — амаль кожны дзесяты.

## У Магілёўскай вобласці змянілася 56 працэнтаў кіраўнікоў

**На думку старшыні Магілёўскага аблвыканкама Барыса Батуры, кадравая абстаноўка ў Магілёўскай вобласці "складаная". Пра гэта ён заявіў на прэс-канферэнцыі.**

Паводле ягоных слоў, толькі летась у вобласці памянялася 56 працэнтаў кіраўнікоў, і гэтыя перастаноўкі былі не заўсёды апраўданы. Сам Батура ў людзях цэніць перш за ўсё прафесіяналізм, дзелавітасць і адказнасць, ацэньвае іх па паказчыках у працы.

Гаворачы пра прызначэнне былога першага намесніка старшыні Магілёўскага аблвыканкама Дзмітрыя Сівіцкага на пасаду генеральнага дырэктара БШК "Белшына", а былога першага намесніка старшыні Магілёўскага гарвыканкама Ніканора Міхаловіча — на пасаду генеральнага дырэктара Магілёўскага аўтазавода, Барыс Батура не палічыў гэта паніжэннем, паколькі абодва названыя прамысловыя прадпрыемствы з'яўляюцца горадаўтваральнымі.

Плануецца, што бліжэйшым часам будзе названа імя яшчэ аднаго намесніка старшыні Магілёўскага аблвыканкама. Зараз за прамысловасць вобласці адказвае Мікалай Жук, за сельскую гаспадарку — Аляксандр Дубко.

## Дзік заразіў людзей трыхінелёзам

**Тры жыхары вёскі Карытніца Бялыніцкага раёна Магілёўскай вобласці і столькі ж магілянчан знаходзяцца ў бальніцах Магілёва і Бялыніч з дыягназам "трыхінелёз". Яшчэ 11 чалавек праходзяць прафілактычнае лячэнне.**

Успышка гэтай хваробы выклікана ўжываннем у ежу мяса дзіка. Раней падобныя выпадкі былі зарэгістраваны ў Быхаўскім раёне вобласці, дзе разносчыкамі інфекцыі таксама былі дзікі.

**Канстанцін УВАРАЎ.**

## Нашы танкі ў Марока

**48 мадэрнізаваных танкаў Т-72 і вялікую колькасць запчастак да іх паставіла Беларусь у Марока, паведаміла расійскае Агенцтва ваенных навін са спасылкай на дырэкцыю 140-га танкарамонтнага завода ў Барысаве. Менавіта там, як сцвярджаецца, праводзіліся работы па перадпродажнай падрыхтоўцы баявых машын, якія знаходзіліся на працяглым захоўванні.**

На машыны выпуску пачатку 80-х гадоў былі ўстаноўлены сучасныя прыборы назірання і прыцэльвання, комплексы кіравання агнём, шэраг новых элементаў сістэмы жыццезабеспячэння. У паведамленні АВН прыводзіцца і сума кантракту на пастаўку беларускіх танкаў у паўночнаафрыканскую краіну. Праўда, гэтая інфармацыя атрымана неафіцыйным шляхам. Згодна з ёю, у выніку продажу танкаў і запчастак да іх Беларусь атрымае 10—12 мільёнаў долараў. Калі не браць у разлік кошт запасных частак, то адзін танк абышоўся Марока ўсяго прыкладна ў 250 тысяч долараў, што вельмі танна, калі размова ідзе аб мадэрнізаванай тэхніцы.

У гутарцы з карэспандэнтам БелаПАН начальнік 140-га завода палкоўнік Уладзімір Сакач заявіў, што асабіста ён нікому не даваў звестак, прыведзеных у паведамленні АВН, тым болей прадстаўнікам расійскіх СМІ. Разам з тым ён не стаў і каменціраваць абнародаванне факта здзелкі Беларусі з Марока, заявіўшы, што гэта не з'яўляецца ўзроўнем яго кампетэнцыі.

У прэс-службе Савета бяспекі Беларусі БелаПАН не змаглі ні пацвердзіць, ні абвергнуць паведамленне аб танкавым кантракце з Марока, спасылаўшыся на адсутнасць інфармацыі.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ, БелаПАН.**

Прэзентацыя

# Вайсковая апазіцыя

*Як мы ўжо паведамлялі, пра свой удзел у прэзідэнцкіх выбарах афіцыйна абвясціў генерал-палкоўнік Павел Казлоўскі*

Беларускія прэзідэнцкія выбары, хутчэй за ўсё, адбудуцца сёлета, не пазней чым у "адну з нядзеляў верасня". Такая неакрэсленасць дае падставы меркаваць, што Лукашэнка, не выключана, паспрабуе наогул абысціся без іх і пераабрацца ці то пры дапамозе чарговага рэферэндуму, пра які будзе абвешчана ў траўні на так званым другім Усебеларускім народным сходзе, ці то шляхам звычайнага парламенцкага галасавання. Але як бы там ні было, шэрагі кандыдатаў у прэзідэнты растуць. Каманда першага міністра абароны суверэннай Беларусі (1992—1994) складаецца практычна з адных вайскоўцаў, якія з прыходам да ўлады А.Лукашэнкі апынуліся ў апазіцыі. Мяркуючы з некаторых першых крокаў гэтай каманды, у прыватнасці, з наладжвання кантактаў з прэсай, можна сцвярджаць, што ў цяперашняга валадара з'явілася даволі дакладна арганізаваная і структураваная вайсковая апазіцыя.

Адной з найкаларытных асоб у атачэнні Казлоўскага з'яўляецца генерал Яўген Бачароў, былы камандзір памежных войскаў. Ён карыстаецца вялікім аўтарытэтам сярод "афганцаў", у іх, дарэчы, рэжым бачыць адну са сваіх апор. Не выключана, што да Казлоўскага далучацца і іншыя вайскоўцы, пакрыўджаныя Лукашэнкам. Напрыклад, 55-гадовы начальнік Генштаба беларускага войска генерал-лейтэнант Казлоў, якому папросту не падоўжылі кантракт — бо не ўмеў "угінацца" перад галоўнакамандуючым.

Па ўсім відаць, што Казлоўскі мае харызматычныя рысы, з якімі можна смела разлічваць на сімпатыі выбаршчыкаў. Нарадзіўся ён у простай сялянскай сям'і, скончыў беларускую школу. Нават у Ташкенцкай вайсковай вучэльні курсант Павел Казлоўскі па ўласным жаданні здаваў некаторыя іспыты (у прыватнасці, матэматыку) па-беларуску.

Немалаважна і тое, што П.Казлоўскі — не паркетны генерал. Ён прайшоў усе штабныя і шыхтовыя службовыя пасады. Нейкі час ягоным падначаленым быў сённяшні начальнік Генштаба расійскага войска Анатоль Квашнін, з якім Казлоўскі дасёння захоўвае цёплыя стасункі. Паводле некаторых звестак, і балатавацца 58-гадовы эксміністр вырашыў менавіта пасля нядаўніх візітаў у Маскву...

Сямейнікі Паўла Казлоўскага не адразу ўхвалілі гэтае ягонае рашэнне — аж занадта пераканальным было здарэнне з Захаранкам. Толькі пасля працяглых гутарак — а ў вялікай сялянскай сям'і генерала ўсе пытанні вырашаюцца па традыцыі супольным абмеркаваннем — Казлоўскі давёў неабходнасць свайго ўдзелу ў выбарах. Дарэчы, генерал быў у маленстве вязнем фашызму, што таксама будзе мець не абы якое значэнне для выбарцаў.

У 1992 годзе П.Казлоўскі быў не адзіным кандыдатам на пост міністра абароны. Іншы прэтэндэнт — беларус-генерал Георгій Шпак — цяпер камандуе расійскімі паветрана-дэсантнымі войскамі. Але першым апрануць новую форму з "Пагоняй" і бел-чырвона-белым шаўронам на рукаве наканавана было Паўлу Казлоўскаму. Менавіта яго віталі на лужку перад Белым домам падчас першага ў гісторыі візіту міністра абароны незалежнай Беларусі ў ЗША — пасля ўсяго, што адбылося ў беларуска-амерыканскіх стасунках за гады кіравання Лукашэнкі, візіты такога ўзроўню цяпер проста нерэальныя. Пры Казлоўскім былі распрацаваны армейскія статуты на беларускай мове, з улікам старажытнабеларускай вайсковай традыцыі. Пры ім распачало актыўную дзейнасць Беларускае згуртаванне вайскоўцаў, актывістамі якога былі як сацыял-дэмакрат Мікалай Статкевіч, так і генеральны пракурор Віктар Шэйман.

Ад традыцыйнай грамадзянскай апазіцыі з яе непераадоленай аморфнасцю каманда П.Казлоўскага істотна адрозніваецца перш за ўсё ўплывовымі сувязямі і аўтарытэтам у сілавых стуктурах — як мінскіх, так і маскоўскіх: нездарма ж Казлоўскі на працягу апошніх гадоў узначальваў Міжнародны фонд рэабілітацыі здароўя былых вайскоўцаў "БелРос". Прагматызм генерала праяўляецца і ў тым, што ён са сваёй камандай быццам бы гатовы падтрымаць самага перспектыўнага кандыдата ад апазіцыі. Але вызначыцца з прэтэндэнтам, на ягоную думку, трэба пры канцы перадвыбарчай кампаніі, а не на пачатку.

З'яўленне беспартыйнага генерал-палкоўніка Паўла Казлоўскага на перадвыбарчым небасхіле заўважна ажыўляе палітычнае жыццё Беларусі і злёгку блытае палітычныя карты як апазіцыі, так і рэжыму. А замежныя назіральнікі змушаныя будуць значна адкарэктаваць сваё стаўленне да беларускіх выбараў. Ніхто не жадае ўзрушэнняў, усе жадаюць мірнай трансфармацыі краіны ў цэнтры Еўропы.

**Раман ЯКАЎЛЕЎСКІ.**
*("НН").*

Громкое дело

# Как Наталья Равкова поздравляла мужа с Днем защитника отечества

*Новый Уголовно-процессуальный кодекс в действии...*

**"Вступление в действие с 1 января новых кодексов можно расценивать как важный этап в деле защиты прав и законных интересов наших граждан", — заявила судья Верховного суда Валентина Баженова в интервью государственной газете. Как же претворяет этот "важный этап" в жизнь сам Верховный суд нашей страны, наглядно демонстрирует судебный процесс по "громкому делу" руководства Гомельского государственного медицинского института.**

На скамье подсудимых — восемь человек. Предварительное следствие уже определило "кто есть кто". Семерых обвиняемых во взяточничестве разместили перед судом на обычной скамье, а одного, начальника военной кафедры, водворили в металлическую клетку, вокруг которой, положив руку на кобуру пистолета, размещены в готовности к стрельбе трое (!) молодцов в пятнистой форме.

Суд еще только приступил к выяснению обстоятельств инкриминируемых преступных деяний и степени причастности к ним обвиняемых. Но в отношении Владимира Равкова прокуратуре вроде все ясно и без суда. Иначе не держали бы подполковника за колючей проволокой вот уже 20-й месяц.

Процесс начался 13 февраля 2001 года. Но только через две недели, 26 февраля, содержащегося в клетке начальника военной кафедры накормили обедом. Все предыдущие дни сытые судьи и пообедавшие прокуроры вершили правосудие над голодным офицером. Такое вот в нашей стране равенство сторон в судебном разбирательстве. Статья 292 УПК государственному обвинителю и обвиняемому гарантирует на бумаге равные права на заявления, выступления, ходатайства. Однако находятся ли сытый обвинитель и голодный обвиняемый в равных условиях по части реализации этих самых прав?

В предыдущих публикациях по этому "Громкому делу" (№№ 4, 22, 31 за 2001 год) говорилось, что Владимир Равков стал "врагом народа" за то, что не признал себя виновным без судебного разбирательства, а вовсе не потому, что следователи прокуратуры именно его вычислили как "организатора преступной группы взяточников".

Но на этом прокуратура не остановилась. Следователь прокуратуры В.Терехович, вопреки требованиям действовавшего на тот момент УКП, лишил Наталью Равкову ее конституционного права защищать своего мужа.

Оценку доказательств, представленным этим следователем, даст суд. Но уже по одному только допросу жены обвиняемого, которую советник юстиции (подполковник) В.Терехович вызвал угрожающей повесткой и, не разъяснив ей ее конституционное право не свидетельствовать против членов своей семьи (статья 27 Основного закона), вынудил Наталью Станиславовну давать показания, — ставлю под сомнение и остальные протоколы допросов.

Председательствующий на процессе член Военной коллегии Верховного суда полковник В.Сукач продолжил, по моему глубокому убеждению, начатое прокуратурой давление на жену "врага народа". Вопреки статье 105 УПК, утверждающей, что доказательства, полученные с нарушением закона, не имеют юридической силы и не могут быть положены в основу обвинения, судья Сукач не только не допустил Наталью Равкову к участию в процессе в качестве защитника своего мужа, но распорядился даже не пропускать ее в зал в перерывах между судебными заседаниями.

26 февраля я убедился в этом лично. Некий чин в военной форме и звании капитана, ссылаясь на распоряжение председателя суда, встал на пути Натальи Станиславовны, шедшей до начала судебного заседания в зал, чтобы поздравить мужа с праздником защитника Отечества. На помощь капитану бросился личный состав караула в составе старшего прапорщика и двух "милиционеров" срочной службы. Остановить решительную женщину милицейские вояки оказались не в состоянии. В их руках осталась верхняя одежда, дамская сумочка, паспорт, а полураздетая милицией Наталья Равкова в зал все же прорвалась.

Более 40 минут размышлял в кабинете полковник Сукач над поисками выхода из ситуации. А в это время караул продолжал издеваться над старшим по званию подполковником Равковым. Его повернули спиной к жене и не давали перемолвиться словом. И все это на глазах двух государственных обвинителей: статского прокурора, старшего советника юстиции (полковника) Н.Корзуна и военного прокурора майора О.Руденко. Не сомневаюсь, что вышеупомянутые прокуроры, прочитав данный материал, сошлются на нововведения Уголовно-процессуального кодекса (статья 315) о том, что председательствующий должен принять меры, чтобы свидетели не общались с лицами, находящимися в зале суда. А неравные условия обвиняемых, сидящих перед судом на обычной скамье и их "подельщиков", содержащихся в клетке, получается не их забота?

Военный суд, появившись после затянувшейся паузы, скороговоркой объявил о выдворении из зала заседаний Натальи Равковой и практически бегом покинул помещение, чтобы только не принять ходатайства жены обвиняемого о неправомерности ее показаний, добытых предварительным следствием.

Итак, подполковник Равков находится в заточении уже более полутора лет. В связи с этим могу предположить, что оправдать Владимира Николаевича суд вряд ли рискнет. Во-первых, это будет означать, что офицер сидел без установленной судом вины. А, во-вторых, к ответственности необходимо будет привлечь следователей прокуратуры. Как минимум для взыскания компенсации за причиненный Владимиру Равкову моральный и материальный урон.

**Валерий ЩУКИН,**
**правозащитник, БХК.**
**Гомель—Минск.**

# У полымі наркотыка

*Самым папулярным наркотыкам у нашай краіне становіцца герагін — адзін з самых моцных дурманаў*

Днямі ў Беларусі прайшла прэзентацыя даклада Міжнароднага камітэта па кантролі над наркотыкамі ААН за 2000 год. Як прызналіся на прэс-канферэнцыі прадстаўнікі сілавых структур краіны, менавіта з гэтага даклада яны чэрпаюць падрабязную інфармацыю пра сітуацыю з наркотыкамі ў свеце...

Беларусь з-за свайго геаграфічнага становішча стала зонай нелегальнай транспарціроўкі наркотыкаў з Усходу на Захад. Чыноўнікі не ўтойваюць, што адсутнасць мяжы з Расіяй — адна з галоўных прычын росту незаконнага абароту наркотыкаў у нашай краіне. Як падкрэсліў кіраўнік аддзела па барацьбе з кантрабандай наркотыкаў Дзяржаўнага мытнага камітэта Беларусі Уладзімір Гарыфаў, "каб спыніць міжнародныя пастаўкі наркотыкаў з краін Сярэдняй Азіі, у нас ствараецца практычна адзіны рубеж — гэта мяжа з Польшчай".

Дарэчы, аб нашых аматарах "кайфануць" "хвалююцца" наркадзялкі з Таджыкістана, Казахстана і Узбекістана. Як адзначыў Уладзімір Гарыфаў, "няпраўда, што сёння асноўным пастаўшчыком наркотыкаў з'яўляецца Афганістан. Паводле нашай інфармацыі, большая частка наркотыкаў, якую на Захадзе лічаць афганскімі, на самай справе вырабляецца ў краінах СНД".

Зразумела, што павелічэнне ўвозу наркотыкаў у Беларусь спрыяе ўцягненню краіны ў структуру наркабізнесу. Беларусь так паступпова перастае быць толькі краінай транзіту. Вялікая колькасць наркотыкаў асядае тут. А расце рынак — падаюць цэны. Калі раней 1 г гераіна каштаваў у Беларусі каля 100 долараў, то ў 1999 годзе — 40—45. А зараз 1 грамм зелля можна набыць за 20 долараў...

Колецца, нюхае, глытае "калёсы" ў асноўным моладзь. Сярэдні ўзрост уцягнутых у згубны працэс хлопцаў і дзяўчат 18—27 гадоў. Сёння на ўліку ў наркалагічных дыспансерах краіны знаходзіцца больш за 7 тысяч наркаманаў. Але гэта афіцыйная статыстыка. Каб даведацца пра рэальную колькасць наркаманаў, трэба афіцыйныя паказчыкі як мінімум памножыць на 20.

Праўда, як адзначыў прадстаўнік ААН у Беларусі Ніл Бунэ, "у дакладзе падкрэсліваецца, што Беларусь і шэраг краін СНД актыўна заняліся вырашэннем праблем, звязаных з наркотыкамі".

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

# Заляцанні з Хусейнам

*Беларусь і Ірак – ваенныя партнёры?*

Брытанская газета "Daily Telegraph" амаль праз год вяртаецца да тэмы актыўнага супрацоўніцтва Ірака ў ваеннай сферы з Расіяй і Беларуссю: у канцы лютага выданне апублікавала артыкул Джэсікі Бэры "Ірак павялічвае сакрэтныя закупкі расійскіх узбраенняў". У ім паведамляецца аб тым, што, "як удалося даведацца "The Telegraph", Садам Хусейн аддаў распараджэнне аб значным павелічэнні колькасці супрацоўнікаў пасольстваў Ірака ў Расіі і Беларусі і прызначыў аднаго са сваіх высокапастаўленых ваенных кіраўніком новага разведвальнага падраздзялення ў Маскве".

Паводле звестак газеты, "пашыраную разведвальную місію Ірака ў Беларусі ўзначаліць палкоўнік Аедзіл Каміл Хадзідзі, ваенны інжынер па спецыяльнасці". "Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка з'яўляецца блізкім хаўруснікам Масквы і прызначэнне Хадзідзі ўяўляе сабой яшчэ адно сведчанне ўмацавання кантактаў Садама з Расіяй", — піша Джэсіка Бэры.

Крыху менш чым год таму — 17 красавіка 2000 года — "Daily Telegraph" паведаміла свету аб тым, што пры пасрэдніцтве Расіі Беларусь, парушаючы эмбарга ААН, заключыла з Іракам здзелку, накіраваную на мадэрнізацыю сістэмы СПА гэтай краіны. "У рамках гэтай здзелкі дзяржаўная беларуская кампанія "Белтэхэкспарт" пагадзілася ўдасканаліць іракскія сродкі СПА, пераасначасціць іракскія ВПС і забяспечыць падрыхтоўку іракскіх войскаў да абслугоўвання тэхнікі, — пісала тады брытанская газета. — Памеры здзелкі ацэньваюцца ў 90 мільёнаў долараў... У рамках здзелкі беларускія тэхнічныя спецыялісты павінны ажыццявіць мадэрнізацыю іракскіх ракет SA-3, павялічыўшы іх далёкасць з 18 да 29 кіламетраў. Будуць удасканалены таксама старыя іракскія зенітныя гарматы. Персанал іракскіх СПА будзе накіраваны ў Беларусь, дзе яго азнаёмяць з найноўшымі сістэмамі вядзення электронных войнаў".

Акрамя таго, указвала "Daily Telegraph", "беларускі бок згадзіўся таксама ажыццявіць мадэрнізацыю 17 іракскіх самалётаў савецкай вытворчасці, якія знаходзяцца ў Беларусі з канца 80-х гадоў". Гэтая публікацыя была расцэнена знешнепалітычным ведамствам краіны як факт "шчырай дэзінфармацыі і хлусні супраць Рэспублікі Беларусь".

У публікацыі ж бягучага года "Daily Telegraph" сцвярджае, што "дапамога з боку Расіі асабліва неабходна Іраку пасля звяржэння рэжыму былога прэзідэнта Югаславіі Слабадана Мілошавіча — былога хаўрусніка Садама, які, як лічыцца, акрамя Расіі, Кітая і Беларусі, аказваў дапамогу ў мадэрнізацыі іракскій сістэмы СПА".

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ, БелаПАН.**

Полемика

# Коктейль из правды

## или Еще раз о политических шулерах

"Народная воля" в №26 от 8 февраля нынешнего года опубликовала статью Сергея Навоева "Надо ли играть с политическими шулерами". Журналист описывает события, которые он "прочувствовал на себе, будучи кандидатом в депутаты так называемой Палаты представителей по Солигорскому городскому избирательному округу". Мне, экс-кандидату на этих выборах, баллотировавшуюся вместе с С.Навоевым по одному округу, выдвигавшуюся путем сбора подписей, некоторые выводы статьи показались претенциозными и весьма спорными. А в сочетании с откровенной подтасовкой фактов, явным их передергиванием, многочисленными намеками (там, где надо говорить прямо, если уж говорить), а то и вовсе вымыслом материал С.Навоева производит и вообще впечатление провокационного.

Оставим на совести автора возвеличивание собственной персоны и самоуверенность по поводу того, что он составлял на выборах настоящую конкуренцию директору п/о "Беларуськалий" П.Калугину. Только лишь потому, что несколько лет назад разоблачил в своих публикациях одного хапугу-предпринимателя и одного преступника в милицейской форме, а также местных "прихватизаторов". Навоев не житель Солигорска и мог не знать, насколько тесно многочисленная часть горожан — работников "Беларуськалия" — связывает на протяжении уже десятка лет само свое благополучие с именем директора объединения калийщиков. Сознание значительного количества остальных солигорчан и относительно налаженный городской быт (неплохой, по сравнению с другими городами) приписывает также заботе генерального директора крупнейшего предприятия. Обоснованно или нет, это уже другой вопрос. Но менять стереотип мышления — достаточно долгий процесс.

Но на то и политик, чтобы быть амбициозным. Плох тот солдат, который не мечтает стать генералом. Тем более что С.Навоев, как утверждает сам, шел на выборы только для того, чтобы партия ЛДП, от которой он выдвигался, "имела возможность "выйти в народ", рассказать людям о своей программе и просто заявить о своем существовании... Более того, только участвуя в выборах, можно было собрать информацию о всех нарушениях, которые там происходили". Чтобы потом поставить вопрос о нелегитимности парламентских выборов в Беларуси.

Точно с такой же целью, являясь членом Белорусской социал-демократической партии (Народная Грамада), пошли на выборы и я, и коммунист Николай Санько. Ни у меня, ни у него изначально не было иллюзий, что окружная избирательная комиссия обеспечит равные условия предвыборной борьбы для кандидата от власти и для нас, оппозиционеров. Тем более, что уже на стадии сбора подписей мы столкнулись с многочисленными грубыми нарушениями Избирательного кодекса и национального законодательства (Навоеву в этом плане повезло, он через это сито не проходил, так как выдвигался от партии). Меня, к примеру, в середине кампании по сбору подписей пригласили на заседание окружной избирательной комиссии, где настоятельно рекомендовали снять свою кандидатуру с участия в выборах, приводя странные аргументы, один из которых: "Подумайте, вам жить в этом городе, у вас дети". При проверке подписей членами избирательной комиссии применялись шантаж и запугивание по отношению к людям, которые дали письменное согласие на мое выдвижение — в частности, имелись случаи, когда подписантам угрожали неприятностями по работе, звонили и приходили по несколько раз домой, требуя отказаться от подписи, либо признать, что дату они поставили не собственноручно. Оказывалось давление и на членов инициативной группы. Все эти факты нарушения Избирательного кодекса были зафиксированы и переданы в ОБСЕ и Белорусский Хельсинкский комитет.

Да, во время предвыборной кампании кандидат П.А.Калугин пользовался массой преимуществ, мы же трое: Санько, Навоев и Насанович на фоне его казались изгоями. Да, государственные средства массовой информации, в том числе и солигорские, активно работали именно на кандидата от власти, кандидаты-оппозиционеры в то же время были напрочь отлучены и от местного радио, и от городского телеканала. Лишили нас совместных дебатов на публике с П.Калугиным. Были закрыты перед соперниками генерального директора п/о "Беларуськалий" двери крупных предприятий города, местная "вертикаль" в своих выступлениях конкретно и настойчиво призывала избирателей отдать свои голоса именно за того, кого желал видеть в парламенте Лукашенко. Обо всем этом господин Навоев написал подробно, так что не буду повторяться.

Но вот что касается чудовищного предательства, которое, по высказываниям С.Навоева, совершили в отношении него Насанович и Санько, оставив свои кандидатуры в списках для голосования, хотя (смотри публикацию С.Навоева) "выступили по Солигорскому частному каналу "СолТЭК" с совместным заявлением об отказе участвовать в таких выборах и подали в окружную избирательную комиссию соответствующие заявления"... Что касается обвинений в предательстве, здесь автор статьи, мягко говоря, необъективен. На самом деле все обстояло так: 12 октября вечером в телестудии "СолТЭК" действительно была сделана запись нашего совместного заявления об отказе участвовать в выборах. Эту запись должны были прокрутить на телеэкране 13 октября в вечернее время. Не прокрутили. В эфир она вышла 13 октября днем. В те минуты, когда "СолТЭК" смотрят единицы горожан, да и то в основном дети, так как взрослые на работе. Таким образом, Солигорск о нашей планируемой акции, о ее мотивах фактически оповещен не был. 14 октября, накануне выборов, мы — Санько, Навоев и Насанович — собрались, чтобы обсудить создавшуюся ситуацию. Коммунист и социал-демократ сошлись во мнении, что нецелесообразно снимать свои кандидатуры с участия в выборах, когда нет возможности оповестить избирателей, почему мы это делаем. 14 октября даже ходить по квартирам мы, согласно Избирательному кодексу, уже не имели права. Мы обоснованно полагали, что если откажемся от участия в выборах, то назавтра на избирательных участках недоумевающим избирателям преподнесут нас, как трусов, сбежавших, опасаясь провала, в последний момент. Или представят дело так, как будто мы сняли свои кандидатуры в пользу П.Калугина. Что, кстати, и произошло в отношении кандидата от либерал-демократов. На тех участках, где находились избиратели, интересовавшиеся, почему зачеркнут в избирательных бюллетенях С.Навоев, либо пожимали плечами, либо объясняли, что он отдал свои голоса в пользу П.Калугина.

Лукавит либерал-демократ, когда утверждает, что Л.Насанович и Н.Санько подали после записи на "СолТЭК" в окружную избирательную комиссию заявления о том, что отстраняются от участия в выборах. Таких заявлений не было. Были другие, зарегистрированные в комиссии несколькими днями раньше. В них мы указывали, что в сложившихся неравных условиях ведения предвыборной агитации мы оставляем за собой право снять свои кандидатуры с выборов.

И уж совсем абсурдным воспринимается утверждение С.Навоева, что это Л.Насанович и Н.Санько провели кандидата от власти в депутаты. Мол, сняли бы свои кандидатуры — и выборы не состоялись. Так как не было бы пятидесятипроцентной явки избирателей на участки.

Выборы в солигорске не состоялись! Меня удивляет, что столь осведомленный в делах солигорской мафии журналист, столь удачливый накопитель компромата на правоохранительные органы, на того же генерального директора п/о "Беларуськалий", не знает того, что явка на избирательные участки Солигорска составила на самом деле 43,14 процента. Во всяком случае, об этом свидетельствуют итоговые данные, полученные из протоколов участковых избирательных комиссий. Наблюдатели от Белорусского Хельсинкского комитета, клуба избирателей, партии коммунистов подтвердили эти данные.

Республиканское радио успело вечером 15 октября оповестить жителей Беларуси о том, что выборы в Солигорске не состоялись.

Это уже 16 октября утром, после ночной "плодотворной" работы окружной избирательной комиссии, вдруг официально оказалось, что в Солигорске проголосовало 51,43 процента.

ОБСЕ, БХК, и другие демократические институты прекрасно осведомлены о провале выборной компании в Солигорске. В БХК имеются копии соответствующих протоколов, подписанные председателями участковых комиссий, некоторые председатели участковых комиссий письменно подтвердили свое согласие дать показания в суде, коль Белорусскому Хельсинкскому комитету удастся довести до судебного разбирательства дело по фальсификации результатов выборов в Солигорске. РОО БХК уже направило в Верховный суд исковое заявление о признании выборов в данном округе несостоявшимися.

Солигорское отделение БХК старается как можно шире довести до сведения людей правдивую информацию об истинных результатах голосования, использует для этого независимую региональную прессу. И тут — на тебе. Удар в спину, что называется. Сергей Навоев поддерживает утверждения властей, что в Солигорске проголосовало более половины избирателей. Спасибо, Сергей, бескомпромиссный вы наш борец за правду.

И уже никакой критики не выдерживает следующий выпад журналиста либерал-демократа: где прямо, а где между строк он утверждает, что партии БСДП (НГ) и ПКБ были заинтересованы именно в том, чтобы подыграть власти и облегчить путь Калугину в депутатское кресло. А так как, на взгляд Навоева, линию БСДП (НГ) в этом плане я провела успешно, то, цитирую автора: "Видимо, по этой причине руководство социал-демократов сразу же после выборов поощрило Насанович поездкой в Швецию". Придется разочаровать Сергея. Не руководство БСДП (НГ) решало, ехать мне в Швецию или нет. Шведские социал-демократы прислали мне прямое приглашение после того, как побывали прошлой весной в Солигорске. Пригласили же они меня еще тогда, когда я даже не знала, буду ли выдвигаться кандидатом в депутаты. И в том, что газета "Салідарнасць" Белорусского независимого профсоюза оказала информационную поддержку П.Калугину, первые лица БСДП (НГ) неповинны. Тут уж социал-демократ, руководитель Белорусского независимого профсоюза В.Бабаед, кстати, член ЦК партии, действовал совершенно самостоятельно. И у В.Бабаеда, и у других лидеров Белорусского независимого — профсоюза Н.Делендика и Н.Зимина, которые по совместительству являются руководителями солигорской социал-демократии, весьма своеобразное видение путей развития демократического движения в Беларуси.

